## На красавік прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**1** красавіка – дзень нараджэння адзначаюць **ксёндз-пралат Францішак Кісель** *(Полацк)*; **кс. Чэслаў Курэчка MIC** *(Росіца)*;

**4** красавіка – дзень нараджэння адзначае **кс. Эдуард Сінкевіч SCJ** *(Варапаева)*;

**8** красавіка – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Мікалай Ліпскі** *(Новалукомль)*;

**9** красавіка – імяніны адзначае **а. Дмітрый Занямонскі OMI** *(Шуміліна)*;

**10** красавіка – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Аляксандр Півавар** *(Бешанковічы)*;

**11** красавіка – дзень нараджэння адзначае **кс. Валеры Орсік** *(Віцебск)*;

**13** красавіка – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Сяргей Сурыновіч** *(Друя)*, **кс. Алег Хмылко** *(Полацк)*;

**19** красавіка – імяніны адзначае **кс. Валеры Марціноўскі** *(Паставы)*;

**23** красавіка – імяніны і дзень нараджэння адзначае **кс. Юрый Бараўнёў** *(Порплішча)*; імяніны адзначаюць **кс. Юрый Барок** *(Расоны)*, **кс. Юрый Жаўняровіч** *(Ахрэмаўцы)*, **бр. Войцех Врублеўскі OFMCap** *(Докшыцы)*;

**24** красавіка – дзень нараджэння адзначае **бр. Войцех Врублеўскі OFMCap** *(Докшыцы)*;

**25** красавіка – імяніны адзначае **кс. Марат Казлоўскі** *(Мосар)*;

**26** красавіка – дзень нараджэння адзначае **кс. Генадзь Добрук** *(Гродзенская дыяцэзія)*;

**28** красавіка – імяніны адзначаюць **кс. Віталь Бяленік** *(Падсвілле)*, **а. Віталь Бандаронак OFMCap** *(Докшыцы)*.

**5** **красавіка** спаўняецца **10 гадоў** газеце **"Каталіцкі Веснік"**




# Біблійныя постаці

## Ад Галгофы да Уваскрасення



**Новы тэст "Каталіцкага Весніка" прапануе праверыць свае біблійныя веды і яшчэ раз звярнуць увагу на асобы людзей, якія сустракаліся падчас апошніх падзей з жыцця Езуса Хрыста аж да Уваскрасення. Паспрабуйце пазнаць асобу, пра якую ідзе гаворка.**

**1** «...Ён пайшоў і дамовіўся з першасвятарамі і дазорцамі святыні, як ён ім выдасць Езуса. Тыя ж узрадаваліся і згадзіліся даць яму срэбранікаў. І ён абяцаў і шукаў нагоды выдаць ім Яго здалёк ад народу...». *(Лк 22, 4-6)*



**А.** Юда Іскарыёт
**Б.** Юзаф з Арыматэі
**В.** Мальхус

**2** «...Пане, я гатовы ісці з Табою і ў вязніцу, і на смерць». *(Лк 22, 33)*

**А.** Апостал Ян – улюбёны вучань Хрыста
**Б.** Сымон-Пётр
**В.** Юда Іскарыёт

**3** Чалавек, які дапамог Езусу несці крыж на Галгофу? *(Лк 23, 26)*



**А.** Юзаф з Арыматэі
**Б.** Апостал Ян
**В.** Сымон з Кірэнэі

**4** «...Езу, узгадай мяне, калі прыйдзеш у сваё Валадарства» *(Лк 23, 42)*

**А.** Бараба
**Б.** Апостал Філіп
**В.** Злачынец з крыжа

**5** «Езус, убачыўшы Маці і вучня, які стаяў побач і якога Ён любіў, сказаў Маці: «Жанчына, вось сын Твой». Потым сказаў вучню: «Вось Маці твая». І з гэтага часу вучань узяў Яе да сябе» *(Ян 19, 26-27)*

**А.** Апостал Андрэй
**Б.** Апостал Пётр
**В.** Апостал Ян

**6** Гэты чалавек «убачыўшы, што сталася, славіў Бога і казаў: «Праўдзіва, Чалавек гэты быў справядлівы!» І ўсе людзі, што сабраліся на гэтае відовішча, калі ўбачылі, што сталася, вярталіся, б'ючы сябе ў грудзі». *(Лк 23, 47-48)*



**А.** Понцій Пілат
**Б.** Сотнік
**В.** Разбойнік з крыжа

**7** Чалавек, які прасіў у Пілата зняць цела Езуса Хрыста з крыжа? *(Ян 19, 38)*

**А.** Дзева Марыя
**Б.** Юзаф з Арыматэі
**В.** Нікадэм

**8** «...Тады пабегла і прыйшла да Сымона-Пятра і да другога вучня, якога любіў Езус, і сказала ім: «Забралі Пана з магілы, і не ведаем, дзе паклалі Яго!» *(Ян 20, 2)*

**А.** Марыя Клеопава
**Б.** Марыя Магдалена
**В.** Марта з Бэтаніі

**9** Двое вучняў, якія першыя пабеглі да магілы Уваскрослага Хрыста? *(Ян 20, 2-3)*

**А.** Пётр і Ян
**Б.** Ян і Павел
**В.** Тамаш і Якуб

**10** «Калі не ўбачу на руках Яго ранаў ад цвікоў і не ўкладу пальца свайго ў раны ад цвікоў, і не ўкладу рукі сваёй у бок Яго, не паверу» *(Ян 20, 25)*

**А.** Апостал Андрэй
**Б.** Апостал Тамаш
**В.** Апостал Якуб

*Старонку падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

# Акцыю па раздачы парсючкоў правёў “Caritas” Віцебскай дыяцэзіі

**18 сакавіка ў Глыбокім дабрачыннае каталіцкае таварыства “Caritas” Віцебскай дыяцэзіі ў супрацоўніцтве з Глыбоцкім тэрытарыяльным Цэнтрам сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва аказала сацыяльна-эканамічную дапамогу тым, хто ў патрэбе.**

■ **Марына Сінкевіч**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*



Сутнасць акцыі заключалася ў раздачы парсючкоў шматдзетным, няпоўным, апякунскім сем’ям, а таксама інвалідам, адзінокім пажылым і малазабяспечаным грамадзянам.

Дапамогу атрымалі пятнаццаць сем’яў без адрознення рэлігійнай прыналежнасці і веравызнання.

Кожная сям’я, якая мае вялікую патрэбу ў дапамозе, у адпаведнасці з прадастаўленымі дакументамі атрымала аднаго парсючка.

Акцыя была праведзена пры падтрымцы «Caritas»Лінц (Аўстрыя).



# У Новалукомлі распісалі абразлівымі надпісамі касцёл

**Ноччу на 18 сакавіка быў здзейснены акт вандалізму ў касцёле Святой Марыі Магдалены ў Новалукомлі.**

Двое маладых людзей каля першай гадзіны ночы забраліся ў касцёл і напісалі чорнай фарбай абразлівыя словы ў прэзбітэрыі. Шум у будынку пачуў пробашч парафіі кс. Мікалай Ліпскі (касцёл злучаны з плябаніяй). Ён паспрабаваў высветліць, што адбываецца ў святыні. Вандалы ўцяклі з месца злачынства. Кс. Мікалай адразу ж выклікаў міліцыю. Супрацоўнікі следчых органаў працавалі да самай раніцы.

І сам пробашч парафіі, і вернікі моцна ўзрушаныя абставінамі гэтага злачынства. У парафіі праводзяцца набажэнствы перапрашэння за грэх абразы Божай святыні. На шчасце, вандалы не пашкодзілі і не ўзламалі табернакулюм, дзе знаходзіцца Найсвяцейшы Сакрамант.

Курыя Віцебскай дыяцэзіі рашуча асуджае акт вандалізму, які меў месца ў касцёле ў Новалукомлі. Заклікаем злачынцаў пакаяцца і навярнуцца на добры шлях. Вернікаў Віцебскай дыяцэзіі просім падтрымаць братоў і сясцёр у Новалукомльскай парафіі малітвай.

Увечары 18 сакавіка мясцовымі праваахоўнымі органамі меркаваныя злачынцы былі затрыманыя і змешчаныя пад варту.

***Курыя Віцебскай дыяцэзіі***






# А трэцяй ночы ішла на адарацыю, калі яе спынілі шэсць узброеных мужчын

**І тое, што адбылося ў адным з самых крымінальных гарадоў свету, прывяло аднаго з салдат да слёз…**

■ *Пераклад* **Марыны Сінкевіч** *паводле pl.aleteia.org*

### Адарацыя ў бандыцкім горадзе

Уінтэрв’ю аргенцінскаму «Радыё Марыя» мексіканскі святар кс. Патрыцыё Хілман распавёў пра незвычайную падзею. Гэта адбылося ў 2013 годзе ў Сьюдад-Хуарэсе, горадзе, вядомым сваімі злачынствамі, на мяжы паміж Мексікай і ЗША.

Горад апынуўся ў аблозе праз крывавыя сутычкі паміж бандамі наркадылераў.

На фоне такой жорсткасці з высокім узроўнем штодзённых забойстваў адна з парафій папрасіла як мага хутчэй адкрыць капліцу вячыстай адарацыі. Тры дні спатрэбілася, каб ідэя ператварылася ў рэальнасць.

### Не верылі, што яна ідзе ў капліцу

У тым жа годзе жанчына ішла ў капліцу а трэцяй гадзіне ночы, каб здзейсніць сваё дзяжурства Святой Гадзіны, калі яе спынілі шэсць салдат. Яны паставілі пад сумнеў яе пазнюю прысутнасць на вуліцы і не паверылі, што яна накіроўваецца да капліцы, калі навокал усё зачынена.

Жанчына прапанавала пайсці з ёй. Калі яны дабраліся да капліцы, салдаты былі здзіўленыя, убачыўшы шэсць жанчын, якія здзяйснялі эўхарыстычную адарацыю а трэцяй гадзіне ночы. Іх здзіўленне яшчэ больш узрасло, калі адна з жанчын сказала: «Вы думаеце, што гэта вы нас абараняеце? Гэта мы молімся за вас 24 гадзіны на суткі».

### Плач салдата

Адзін з салдатаў, трымаючы зброю ў руках, расплакаўся і ўпаў на калені перад Найсвяцейшым Сакрамантам. На наступны дзень, на досвітку, роўна а трэцяй ночы, той самы салдат у цывільным стаяў на каленях у капліцы і чуваў сваю Святую Гадзіну перад Найсвяцейшым Сакрамантам, «праліваючы акіяны слёз».

Як паведамляецца, у гэты час у Сьюдад-Хуарэсе адбылося значнае зніжэнне ўзроўню забойстваў. Да 2010 года горад рэгулярна фігураваў у рэйтынгу дзесяці самых небяспечных гарадоў свету. У апошнія гады ён выбыў з гэтага сумна вядомага спіса. Цяпер горад займае лепшае месца, чым некаторыя з так званых гарадоў «першага свету», напрыклад, амерыканскія Балтымор ці Новы Арлеан.

### Адарацыя як эфектыўная зброя

Узровень забойстваў у Сьюдад-Хуарэсе застаецца высокім і патрабуе намаганняў ад ураду і малітваў хрысціян. Аднак паказчыкі ўпалі з 3766 выпадкаў у 2010 годзе да 256 у 2015-ым.

Бог заўсёды просіць, каб мы выконвалі сваю частку задання. Сярод усіх мераў, прынятых для пераадолення злачыннасці ў Сьюдад-Хуарэсе, здаецца, што вячыстая адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту аказалася найбольш эфектыўнай зброяй у барацьбе за дабро і спакой.

# Як па-сапраўднаму прабачыць?

## Раіць экзарцыст



**Гэтыя крокі няпростыя, але яны прыносяць свабоду. Без іх мы абмяжоўваем дзеянні Бога.**

**Айцец Джым Блаунт — экзарцыст, адданы служэнню аздараўленню і вызваленню ад злых духаў.**

*Пераклад* **Марыны Сінкевіч** *паводле pl.aleteia.org*

Часта ў нас няма жадання прабачыць. Часам гэтае жаданне з'яўляецца няпоўным. Здаецца, што ў сям'і нават не хапае духу прабачэння. У такіх выпадках трэба прасіць у Бога ласкі прасіць прабачэння, сілы і любові, якія робяць такое прабачэнне магчымым.

Мы таксама можам супрацоўнічаць з Божай ласкай у працэсе прабачэння. Для гэтага айцец Джым раіць зрабіць чатыры крокі да прабачэння. Яны павінны дапамагчы, каб прабачэнне было поўным, цалкавітым і па-сапраўднаму святым.

### Акт волі

Першы крок патрабуе выкарыстання волі. Прабачэнне пачынаецца з акта волі, а значыць, з нашага вольнага выбару прабачыць.

Прабачэнне — гэта не эмоцыі і пачуцці. Гэта ваша свядомае рашэнне. Мы можам выпрабаваць любыя пачуцці і думкі, але аб прабачэнні вырашае наша воля. Гэта рашэнне нешта зрабіць, каб абавязаць сябе пакінуць мінулае.

Думкі і эмоцыі дапамагаюць нам прымаць правільныя рашэнні, але ў рэшце рэшт не думкі, а рашэнні вызначаюць наша жыццё. Вырашаем даравацьз дапамогай гаючай ласкі Езуса Хрыста.

Мы робім так, як гаворыцца ў малітве Панскай: «І адпусці нам правіны нашы, як і мы адпускаем вінаватым нашым». Калі мы неміласэрныя да іншых, мы абмяжоўваем міласэрнасць, якую Ён абяцаў нам аказаць.

Як Хрыстос дараваў сваім катам з крыжа, так і мы прабачаем тым, хто нас пакрыўдзіў. Мы можам прабачыць кожнаму: бацькам і іншым членам сям'і, сябрам, настаўнікам і ўсім, хто калі-небудзь нас крыўдзіў. Але гэта звязана выключна з сілай ласкі, якую даў нам Езус, і з поўнай рашучасцю нашай волі.

Каб прабачыць, выканайце акт волі з дапамогай малітвы: ***«Я прабачаю табе,** [імя таго, каму мы прабачаем]**, у імя Езуса Хрыста, зараз і назаўсёды»***.

### Блаславі крыўдзіцеляў

На другім этапе мы блаславяем тых, хто нас пакрыўдзіў. Цяпер мы адказваем на праклён блаславеннем. Хрысціяне ніколі не рэагуюць на праклёны праклёнамі. Замест таго, каб лаяцца, мы блаславяем.

Можа здарыцца так, што чалавек, які пакрыўдзіў вас, пракляў вас. Вусны праклён можа быць моцным. Праклён таго, хто мае ўладу над табой, а менавіта, маці, бацькі, мужа альбо старэйшага брата ці сястры — вельмі небяспечны.

Гэта датычыцца працадаўцаў, кіраўнікоў ці настаўнікаў. Тыя, хто мае ўладу, павінны выкарыстоўваць свае вусны для блаславення; а калі яны замест гэтага кагосьці праклінаюць, гэта можа быць д'ябальскім учынкам. Мы павінны гэтага пазбегнуць і таму блаславяем іх.

Гэта самы важны крок да прабачэння. Гнеў, нянавісць і пагружэнне ў раны знікаюць пры блаславенні. Блаславенне растае лёд нашага сэрца, блаславенне нейтралізуе яд, блаславенне лечыць сэрца.

Блаславенне, якое мы даем, павінна быць шчодрым і багатым. Блаславяючы кагосьці, мы паказваем, што жадаем яму ўсяго, што Бог хоча ад яго. Блаславенне — гэта выяўленае жаданне, каб іншая душа пазнала бязмежную любоў Бога і атрымала Божую міласэрнасць. Святы Павел вучыць нас: «Благаслаўляйце тых, хто пераследуе вас, благаслаўляйце, а не праклінайце!» (Рым 12, 14).

Нават калі грахі, учыненыя супраць нас, жудасныя, мы хочам, каб яны былі дараваныя, а асоба — блаславёная. Мы хочам, каб той, хто нас пакрыўдзіў, быў аздароўлены і вярнуўся да жыцця. Таму хрысціяне моляцца за тых, хто іх пакрыўдзіў, і жадаюць радасці ў гэтым і будучым жыцці. Мы просім Бога даць іншым сапраўдную радасць і ўсё неабходнае на шляху да шчасця.

Магчыма, той, хто нас пакрыўдзіў, пакутуе сам. Калі так, просім аздараўлення для гэтай асобы. Магчыма, яна пакутуе на алкагалізм ці іншую залежнасць. Можа, яе таксама нехта пакрыўдзіў, і ёй таксама трэба аздараўленне. Таму мы молімся аб вызваленні нашых крыўдзіцеляў ад хвароб і пакут.

На гэтым этапе пачынаецца сапраўднае прабачэнне. У той момант, калі я прабачыў таму, хто мяне пакрыўдзіў, то пачынаю бачыць усё ў новым святле.

Каб блаславіць каго-небудзь, выканайце акт волі з дапамогай гэтай малітвы: ***«Бласлаўляю цябе,** [імя таго, каму мы прабачаем] **у імя Езуса Хрыста, цяпер і назаўсёды»***.

### Дзякуй пастаянна

Наступны крок складаны. Гэта заклік да сталасці, да святасці. Гэта крок да святасці, таму што ён патрабуе бачыць рэчы так, як бачылі сябры Бога – святыя.

На трэцім этапе я пачынаю знаходзіць Хрыста, нягледзячы на пакуты ад нанесеных мне ран. Я пачынаю з таго, што нагадваю сабе, што Божая святая воля адначасова эфектыўная і ўсёдазвольная.

Бог — прычына ўсяго дабра ў маім жыцці. Ён уносіць у маё жыццё блаславенне. Часам Ён дазваляе дрэннаму здарацца. Магчыма, што Бог дазволіў і маю рану.

Бог выкарыстоўвае мае раны і мой боль, каб навучыць мяне пакоры і залежнасці толькі ад Яго. Дзякуючы ім, я звяртаюся да Яго, і Ён аздараўляе мяне. Такім чынам, мае раны, нават калі яны былі выкліканыя не Богам, могуць стаць для мяне лекамі. Мы можам падзякаваць крыўдзіцелям, бо яны дапамагаюць нам зразумець дабро Госпада.

Праз нашы пакуты мы пазнаём міласэрнасць, сапраўдную прыроду найглыбейшай любові. У такой перспектыве мы нават можам пачаць дзякаваць Богу за нашы раны. Дзякуючы Божай аздараўленчай ласцы мы можам прызнаць, што менавіта праз нашы раны мы знайшлі збаўленне. З-за гэтага мы разумеем багацце таго, чаму нас вучыць святы Павел, калі раіць: » За ўсё дзякуйце» (1 Тэс 5, 18).

І хаця мы ніколі не просім крыўдаў і ран, яны могуць стаць для нас крыніцай багатых ласк. Як гаворыцца ў Святым Пісанні: «Сапраўды, сапраўды кажу вам: калі пшанічнае зерне, упаўшы ў зямлю, не памрэ, то застанецца адно, а калі памрэ, то прынясе багаты плён» (Ян 12, 24).

Святая Тэрэза Авільская пісала: «Адзінае, за што мы падзякуем Богу, апынуўшыся на небе, — гэта нашы крыжы». Святая Роза Лімская сказала вельмі падобна: «Акрамя крыжа, няма іншай лесвіцы, па якой мы маглі б узняцца на неба».

Езус навучыў нас падстаўляць другую шчаку. Якімі б жудаснымі ні былі нашы раны, іх можна праславіць праз Хрыста. У рэшце рэшт, на нябёсах раны Хрыста не сціраюцца з крыжа. Яны служаць для абвяшчэння славы Божай. Раны Хрыста становяцца сродкам, дзякуючы якому апосталы могуць распазнаваць Госпада і паверыць.

Таму мы павінны прасіць ласкі, каб падзякаваць Богу за раны, якія мы атрымалі ў гэтым жыцці, бо яны могуць спрыяць нашаму аздараўленню. І мы можам падзякаваць нашым крыўдзіцелям праз малітву за тое, што яны з'яўляюцца Божымі прыладамі для нашага асвячэння.

Каб падзякаваць Богу, выканайце акт волі з дапамогай такой малітвы: ***«Дзякуй, Госпадзе, і дзякуй табе,** [імя таго, каму мы прабачаем] **за раны, якія гояцца»***.

### Аддай хвалу Пану

На чацвёртым і апошнім этапе прабачэння мы праслаўляем менавіта Бога. Мы скіроўваем свае думкі да слаўнага праўлення нябеснага Валадарства Божага, кланяючыся перад Богам, каб славіць Яго за ўсё, што Ён нам даў.

Мы прызнаем нашага Госпада крыніцай усяго нашага жыцця. Бог – любячы ўсіх Лекар, які дзеля нашага добрага і вечнага выратавання прыходзіць нам на дапамогу сярод граху і цярпення.

У Святым Пісанні гаворыцца: «Бо так палюбіў Бог свет, што аддаў Сына свайго Адзінароднага, каб кожны, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў жыццё вечнае» (Ян 3, 16). Айцец так моцна хацеў адкупіць створаны ім свет, што паслаў Сына пакутаваць і паміраць, каб мы спазналі ўнутраную дабрыню і любоў Бога. У спалучэнні з пакутамі самога Хрыста нашы раны могуць стаць вялікім дарам, які адкрывае нас на жыццё, любоў і збаўленне Бога.

Таму будзем праслаўляць Усемагутнага Бога і дзякаваць Яму за ўсе нашы раны і цярпенні. У сваёй дасканалай мудрасці Ён падрыхтаваў усё для майго дабра тут і ў вечнасці.

Праслаўляючы Бога, мы аддаём Яму ўсё, чым мы ёсць, і ўсё, што мы выцярпелі. Ён крыніца ўсяго дабра ў жыцці. Гэты крок дапаўняе наша прабачэнне і вядзе да поўнага прыняцця Божай святой волі.

Усё ў Яго руках і дазволена Божым Провідам. Душа мая аздароўлена.

Каб праславіць Бога, здзейсніце акт волі з дапамогай гэтай малітвы: ***«Праслаўляю Цябе, Пане, і Тваю Найсвяцейшую Маці. Слаўлю за Ваш план збаўлення, які дае мне збаўленне і вядзе мяне да дасканалай радасці»***.



# Каляндар на красавік

**У гэтым месяцы мы адзначаем самае вялікае свята хрысціянаў – Вялікдзень. А таксама перажываем Вялікі Тыдзень – час разважанняў пра пакуты і смерць на крыжы Езуса Хрыста.**



**1 красавіка – Вялікі Чацвер.** У Вялікі Чацвер адбылася Апошняя Вячэра Езуса Хрыста са сваімі вучнямі – апосталамі. У гэты дзень у касцёле ўвечары адпраўляецца ўрачыстая св. Імша Вячэры Пана, якая распачынае святы Пасхальны Трыдуум. Яна адпраўляецца ў памяць Апошняй Вячэры, падчас якой Хрыстос ахвяраваў Богу Айцу пад выглядам хлеба і віна свае Цела і Кроў, а пасля даў апосталам да спажывання і наказаў, каб яны рабілі гэта на Яго памяць. Падчас святой Імшы ў Вялікі Чацвер біскуп ці святар абмывае ногі дванаццаці вернікам у знак пакоры і любові да бліжняга, паўтараючы прыклад Хрыста, Які мыў ногі апосталам. Святары цэлебруюць Імшу ў белых ці залатых арнатах. Пасля ўваходнай працэсіі і ўступных абрадаў спяваецца гімн "Хвала на вышынях Богу", падчас якога звоняць усе званы касцёла. Пасля гімна ўсе званы і арган замаўкаюць ажно да гімна "Хвала на вышынях", які спяваецца падчас Пасхальнай вігіліі. Пасля Камуніі адбываецца перанясенне Найсвяцейшага Сакраманту да месца, дзе ён будзе захоўвацца. Гэта таксама дзень устанаўлення сакрамантаў Эўхарыстыі і святарства, таму ў гэты дзень вернікі віншуюць сваіх святароў з днём святарства.





**2 красавіка – Вялікая Пятніца Мукі Пана.** У Вялікую пятніцу на знак вялікай павагі да крыжовай ахвяры Езуса Хрыста за грахі ўсяго свету св. Імшы не цэлебруюцца. Гэта дзень скрухі і роздуму ўсяго хрысціянскага свету. Паколькі Вялікая Пятніца з'яўляецца днём пакуты, вернікі маюць абавязак захоўваць строгі пост.

З раніцы адбываецца адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту пры цямніцы. Адпраўляецца ўрачысты Крыжовы шлях. Цэнтрам гэтага дня з'яўляецца літургія Мукі Пана. Яна складаецца з трох частак: літургіі слова, адарацыі крыжа і абраду Камуніі. Цэнтральнай часткай літургіі Мукі Пана з'яўляецца адарацыя святога Крыжа, на якім здзейснілася збаўленне свету. Крыж не выступае выключна знакам цярпення і прыніжэння, але найперш знакам надзеі на канчатковую перамогу Езуса. За ўдзел у адарацыі крыжа і за цалаванне яго падчас літургіі Мукі Пана можна атрымаць поўны адпуст. Пасля заканчэння літургіі Мукі Пана адбываецца выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту і перанясенне яго да Гробу Панскага.



**3 красавіка – Вялікая Субота.** У гэты дзень працягваецца малітва вернікаў каля Грабніцы Езуса Хрыста. Таксама на працягу ўсяго дня ў касцёле асвячаюцца велікодныя стравы для святочнага стала. Пасля заходу сонца праходзіць урачыстая Пасхальная Вігілія, надзвычай прыгожая і вымоўная ў сваіх абрадах. Святы Аўгусцін называў Пасхальную Вігілію "маці ўсіх вігілій". Падчас яе асвячаюцца агонь, пасхальная свечка, вада і спяваюцца велікодныя гімны. У гэтую ноч Касцёл чакае ўваскрасення Езуса Хрыста і ўрачыста яго святкуе.



**4 красавіка – Велікодная Нядзеля або Уваскрасенне Пана.** Дзень Уваскрасення Хрыста. Галоўнае хрысціянскае свята. Літургічная цэлебрацыя нядзелі Уваскрасення распачынаецца на світанні. З самай раніцы ва ўсіх касцёлах адбываецца ўрачыстая працэсія з Найсвяцейшым Сакрамантам вакол святыні або вуліцамі гарадоў, мястэчак, вёсак, а затым цэлебруецца ўрачыстая святая Імша, якая называецца Рэзурэкцыйнай (ад лацінскага слова resurrectio – уваскрасенне)

Гэта таксама той дзень, калі ўся сям'я збіраецца разам за велікодным сталом і спажываюцца асвечаныя стравы. Чытаецца ўрывак з Евангелля і малітвы. Усе дзеляцца асвечаным яйкам з соллю, а пасля частуюцца рознымі стравамі. Першы дзень Вялікадня – звычайна сямейны.



**5 красавіка – Панядзелак у актаве Пасхі.** Другі дзень свята. У гэты дзень усе вернікі наведваюць касцёл і ўдзельнічаюць у святой Імшы. Прынята на другі, трэці дзень наведваць сірот, старых і адзінокіх людзей, увогуле ўсіх, каму патрэбная дапамога.



**11 красавіка – Нядзеля Божай Міласэрнасці.** Гэтае свята для паўсюднага Касцёла было ўстаноўлена Папам Янам Паўлам II у лістападзе 2000 г. Адзначаецца яно ў другую Велікодную нядзелю. 22 лютага 1931 г. Хрыстус аб'явіўся с. Фаўстыне Кавальскай у кляштары сясцёр Маці Божай Міласэрнасці ў Плоцку, якой і паведаміў аб сваім жаданні ўстанавіць свята Божай Міласэрнасці. Святая Фаўстына перажыла 23 містычныя аб'яўленні, пра якія апавядаецца ў яе «Дзённіку», які яна вяла згодна з жаданнем Хрыста і спаведнікоў. У ім апісваюцца перажытыя цярпенні, містычны стан і аб'яўленні. Яны датычаць, між іншым, стварэння абраза «Езу, давяраю Табе», малітвы Вяночак да Божай Міласэрнасці, устанаўлення Гадзіны Міласэрнасці (15.00 — гадзіна смерці Хрыста на крыжы) і свята Божай Міласэрнасці. Гэтае свята не толькі дзень асаблівага праслаўлення Бога ў таямніцы міласэрнасці, але таксама і час ласкі для ўсіх людзей. "Я прагну, – сказаў Пан Езус, – каб свята міласэрнасці было выратаваннем і прытулкам для ўсіх душаў, і асабліва для бедных грэшнікаў" (Дз. 699).



**29 красавіка – свята св. Кацярыны Сіенскай,** панны і доктара Касцёла, апякункі Еўропы. Кацярына Бенінказа нарадзілася ў 1347 г. і была дачкой фарбавальніка з Сіены (Цэнтральная Італія). Ва ўзросце 12 гадоў Кацярына, згодна з жаданнем бацькоў, павінна была выйсці замуж, аднак глыбокая рэлігійнасць і багатае ўнутранае жыццё схілілі яе да таго, каб уступіць у Трэці закон дамініканаў. Паводле ўласных словаў святой, яна перажыла "духоўныя заручыны" з Хрыстом. Сваім гераічным хрысціянскім жыццём, напоўненым самаахвярнай любоўю да бліжніх у імя Хрыста, яна прыцягнула да сябе шмат прыхільнікаў з усіх сацыяльных пластоў. Памерла ў Рыме ва ўзросце 33 гадоў, у апошнія гады жывячыся выключна Эўхарыстыяй. Святая Кацярына Сіенская з'яўляецца апякункай Італіі і Еўропы. Яе заступніцтва просяць хворыя на чуму і тыя, хто пакутуе ад галаўных боляў.

*Матэрыялы старонкі падрыхтавала* ***Вікторыя Колзун***

# О чем может говорить плохое поведение ребенка

**Для начала давайте ответим на вопрос: почему ребенок ведет себя плохо? Думаю, сейчас в вашей голове возникло множество ответов, но, чаще всего, все они сводятся к одному: потому что он… – и дальше мы начинаем перечислять качества ребенка, из-за которых возникает плохое поведение. По сути мы говорим о том, что ребенок плохо себя ведет, потому что плохой. Для нас это вполне привычный педагогический подход – объяснять возникающие проблемы поведения качествами самого ребенка. И этот подход используется не один десяток лет.**

■ **Марина Ткач,** *психолог*



Я же хочу предложить вам посмотреть на плохое поведение детей через призму целей, а не причин, то есть ребенок ведет себя плохо не ИЗ-ЗА чего-то, а ДЛЯ чего-то.

Но прежде чем разбираться в скрытых мотивах плохого поведения, давайте рассмотрим алгоритм действий, с помощью которого вы как родители сможете справляться с нежелательным поведением ребенка.

Для начала нужно точно понять, что именно нужно ребенку, какую истинную цель он преследует при помощи плохого поведения. И в этом вам поможет наблюдение и анализ эмоциональных реакций вашего ребенка.

Второе, что следует сделать, чтобы минимизировать проявления плохого поведения, – это наладить отношения между вами и ребенком. Речь идет о том, чтобы потребность ребенка удовлетворялась гармонично и комфортно как для него самого, так и для остальных членов семьи. Я говорю здесь не о «слепом» потакании прихотям и желаниям ребенка, а о разумном получении желаемого и при этом выстраивании отношений с ребенком без ухода в эмоции с вашей стороны. Как видим, предложенный алгоритм достаточно прост.

Если рассуждать о скрытых мотивах плохого поведения детей, то здесь можно говорить о четырех основных целях:

– борьба за внимание
– власть
– месть
– избегание неудач

**Борьба за внимание.** Думаю, многим знакома ситуация, когда вы очень заняты, а у ребенка тут же появляется масса неотложных дел или проблем, которые, по его мнению, он решить не в силах. Ну, например, ребенок хочет пить и требует налить ему воды (хотя вы знаете, что он сам может справиться с этой задачей) или ему холодно, жарко, скучно и т.д. и вы должны помочь ему решить эти жизненные моменты.

В описанных ситуациях первая и вполне естественная реакция родителей – это раздражение. Ведь родители для обеспечения достойного уровня жизнедеятельности порой вынуждены много работать и в такой ситуации остается мало времени и сил для детей. Вот и получается, что ребенок пытается с помощью непослушания получить то внимание, которого не хватает.

Если вы понимаете, что ваш ребенок настойчиво требует внимания, постарайтесь уделять ребенку больше времени и внимания по собственной инициативе, когда он не настаивает на этом. При самом загруженном и тяжелом дне можно найти десять минут на общение с ребенком или просто провести это время вместе с ним, давая понять, что вы любите его и всегда рядом. Ведь в семье, где дети чувствуют, что их любят и ценят, не возникает желания привлекать к себе дополнительного внимания. Также стоит объяснить детям, что вы бываете очень заняты и уделить им время можете, например, только вечером. И это отличный повод для появления семейной традиции, когда вы будете уделять время друг другу, забывая о возможных проблемах и текущих делах.

**Борьба за власть.** Чаще всего дети борются за власть, когда уверены, что их мнение, их взгляды никого не интересуют. Например, вы заходите в комнату к ребенку, видите, что он чем-то увлеченно занят, но при этом вокруг царит бардак. Вы просите убрать вещи в комнате, ребенок отвечает, что доделает то, чем занят, и тогда уберет. Вы продолжаете настаивать и говорите убраться в комнате именно сейчас, немедленно.

И здесь разговор переходит в конфликт, вы раздражаетесь, ребенок расстроен, что порядок в комнате для вас важнее чем его интересы и увлечения. Как итог: вы не добились желаемого, а лишь спровоцировали ребенка на отстаивание своих интересов любым способом, в том числе и с помощью плохого поведения.

В ситуации борьбы за власть вам как родителям следует взять определенную паузу и спокойно оценить ситуацию с позиции того, что происходит и как вы можете помочь ребенку понять, что вы не тот, с кем нужно соперничать. Ко всему прочему данная пауза поможет снизить интенсивность и ваших эмоций в том числе.

Для того чтобы уменьшить проявление борьбы за власть поможет:

– избегание директивных указаний ребенку. Вместо этого всегда предоставляйте право выбора, которое будет способствовать развитию определенной ответственности за действия и поступки;

– заранее предупреждайте о тех задачах и делах, которые ребенок должен будет выполнить. Договаривайтесь о чем-то заранее.

**Месть.** Если борьба за власть ребенком многократно проиграна, а родители и дальше продолжают демонстрировать превосходство, дети впадают в отчаянье и начинают мстить. Формы мести могут быть различные: от срыва важных для родителей планов, порчи вещей до ситуаций, когда бы родителям было стыдно за поведение собственных детей. Разрешить ситуацию мести достаточно непросто, и чаще всего эта задача ложится на плечи родителей. Постарайтесь не уходить в ответные эмоции (злиться на него, угрожать какими-либо ограничениями, кричать). Вместо этого успокойтесь и мысленно перечислите пять основных качеств, за которые вы любите своего ребенка. Сделайте что-нибудь для восстановления ваших с ребенком взаимоотношений, верните его доверие к вам. Почаще будьте инициатором совместного времяпрепровождения, без давления и требований, дайте понять, что вы его любите несмотря ни на что.



**Избегание неудач.** При таком скрытом мотиве плохого поведения дети пытаются подчеркнуть свои слабости и убеждают окружающих в том, что они очень беспомощны. Чаще всего со стороны родителей это вызывает жалость.

**Что можно с этим сделать:**

– перестать жалеть ребенка, т.к. этим вы разрушаете его веру в собственные силы и даете подтверждение, что он действительно беспомощен;

– сопереживайте, но не сочувствуйте. Пытайтесь помочь ребенку;

– воздержитесь от попыток уговаривать ребенка делать что-нибудь из числа того, что, по его мнению, он сделать не может;

– создавайте для ребенка как можно чаще ситуации, в которых он будет преуспевать, постепенно усложняя их. Это поможет повысить веру в собственные силы и уверенность в том, что и вы считаете его способным достигнуть определенных успехов и побед. Делайте акцент на его сильных сторонах личности.

Как видим, скрытые мотивы плохого поведения у детей достойны того, чтобы мы о них знали. Чаще всего чтобы разрешить вышеописанные моменты, нужно скорректировать, сбалансировать взаимоотношения «взрослый-ребенок».

# Памяць застаецца.

## Казіміра Сваяка ўзгадалі ў Варнянах

**Асоба Казіміра Сваяка заўсёды прыцягвала ўвагу даследчыкаў і навукоўцаў. За сваё нядоўгае жыццё святар паспеў зрабіць многае. Гэта выдатны прамоўца, драматург, паэт. Яго казанні кранаюць прысутных, прымушалі задумацца над сэнсам уласнага жыцця, а паэтычны талент дапамагаў выказваць думкі ў творчай форме. У невялікім аграгарадку Варняны да гэтага часу памятаюць свайго таленавітага земляка. Тут час ад часу праходзяць мерапрыемствы, прысвечаныя жыццёваму і творчаму шляху святара.**

■ **Вольга Заянчкоўская,** *бібліятэкар*

У Варнянах у канцы лютага прайшла чарговая імпрэза. Яна пачалася з уступнага слова пробашча мясцовай парафіі Віктара Захарэўскага, які яшчэ раз прыгадаў цікавыя факты з жыцця Казіміра Сваяка, паблаславіў прысутных. Супрацоўнікі мясцовых клуба і бібліятэкі чыталі пранікнёныя вершы паэта. Пра жыццёвы і творчы шлях узгадала Людміла Кухарэвіч. Яна назвала вершы, прозу, дзённікавыя запісы святара сапраўдным набыткам для нашчадкаў і паслядоўнікаў.

Казімір Стаповіч вёў актыўную грамадскую дзейнасць: стварыў хор, а таксама гуртoк для адукацыі мясцовых юнакоў і дзяўчат, развіваў народны тэатр, спрыяў адкрыццю новых навучальных устаноў. Усе свае сілы святар прыкладаў для дабрабыту іншых. Яго жыццё заўсёды знаходзілася ў межах хрысціянскай маралі. Просты і сціплы, ён заўсёды прыцягваў да сябе людзей. Святар стаў прыкладам для моладзі, а сапраўдным набыткам для нашчадкаў стаў зборнік вершаў "Мая ліра". У кожнай сельскай бібліятэцы Астравецкага раёна таксама можна знайсці гэты зборнік. У ім змешчаны самыя розныя творы: гэта і вершы-медытацыі, і вершы на евангельскія сюжэты, і балады, і нават жартаўлівыя прыпеўкі.

Пробашч Віктар Захарэўскі запаліў свечку як сімвал жыцця. Яе святло дапамагае верыць, што жыццё чалавека не скончылася, бо яно працягваецца ў яго добрых справах.

Прынялі ўдзел у мерапрыемстве і вучні Варнянскай сярэдняй школы, якія таксама падрыхтавалі ўрыўкі з дзённікавых запісаў Казіміра Стаповіча, чыталі яго вершы і прозу. Імпрэза закранула кожнага і дала магчымасць яшчэ раз звярнуцца да выдатных тэкстаў.





## Пахвалёны Езус Хрыстус!

***Шаноўны галоўны рэдактар "Каталіцкага Весніка" ксёндз Віктар Місевіч, паважаныя супрацоўнікі рэдакцыі!*** *Мы, пастаянныя падпісчыкі і ахвярадаўцы, шчыра віншуем вас, вашых родных і блізкіх і ўсіх святароў, біскупаў, духоўных асоб з надыходам свята Уваскрасення Пана! Няхай Хрыстус уваскрослы, Збаўца свету, адорыць вас усімі патрэбнымі ласкамі, шчодрых вам дароў Духа Святога, апекі Маці Божай! Няхай Дух Святы памнажае вашу мудрасць і падтрымлівае ў цярпенні!*

*Шчыра дзякуем ксяндзу Віктару за ўсе малітвы! Няхай Нябесны Айцец шчодра ўзнагародзіць Вас за мудрае абвяшчэнне Божага слова, якое заўсёды кранае нашы душы, а мы будзем памятаць Вас у сваіх малітвах!*

***З вялікай павагай, вернікі Мядзельскай парафіі Маці Божай Шкаплернай***

## Хвала Хрысту!

*Шчыра віншуем увесь **калектыў рэдакцыі "Каталіцкага Весніка"** з надыходам Вялікадня! Жадаем усім моцнага здароўя і ўсяго найлепшага ў жыцці і працы! Няхай Міласэрны Бог узнагародзіць Вас за ўсё добрае, што Вы робіце на Божай ніве!*

***З павагай, вернікі касцёлаў Святой Марыі Магдалены (г. Новалукомль) і Перамянення Пана (г. Чашнікі)***

## Хвала Хрысту!



*Паважаны **ксёндз Славамір Самковіч**! Ад усіх чальцоў Апостальства дапамогі душам чысцовым і ад кожнага сэрца віншуем Вас са святам Вялікадня! Жадаем Вам усіх нябесных ласкаў і заступніцтва святых! Дзякуем Пану Богу за тое, што Вы ў нас ёсць!*

***Вернікі з Мёраў, Павяцця і Ідолты***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Сардэчна віншуем нашага паважанага **ксяндза Францішка Кіселя** з Днём нараджэння (1 красавіка).*

*Сардэчна жадаем Вам, дарагі ксёндз пробашч, моцнага здароўя, душэўнага спакою, шчырых дароў Духа Святога, апекі Маці Божай! Няхай Пан Бог узнагародзіць Вас за аддадзеную працу ў нашай парафіі і за ўсё, што Вы робіце на Божай ніве!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Святога Андрэя Баболі ў Полацку***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

***Паважанаму біскупу Алегу Буткевічу, ксяндзу-каноніку Віктару Місевічу, усім святарам Віцебскай дыяцэзіі*** *з нагоды Дня святарства і святаў Уваскрасення Пана дасылаем букет найлепшых пажаданняў!*

*Няхай Уваскрослы Хрыстус адорвае Вас усімі сваімі ласкамі, напаўняючы жыццё святлом і дабрынёй, распальваючы сэрцы любоўю і ўзмацоўваючы сілы для далейшай плённай працы на карысць Богу і людзям! Найсвяцейшая Маці няхай надалей будзе Вашай галоўнай заступніцай, а Святы Дух шчодра ўзнагароджвае сваімі каштоўнымі дарамі! Няхай на твары зіхаціць добрая і светлая ўсмешка, а ў душы пануе супакой! Радасных святаў! Аллелюя!*

***З малітвай і павагай, сем'і Місевіч і Вяршэль***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Паважаны **ксёндз Вячаслаў Адамовіч!** Ад усёй душы хочам павіншаваць Вас з вялікім святам Уваскрасення Пана і пажадаць Вам радасці і супакою! Няхай Усемагутны Пан адорыць Вас здароўем і патрэбнымі Божымі ласкамі! Няхай гэты год стане самым шчаслівым для Вашага пастырскага служэння! Мы вас любім і заўсёды чакаем у нашых капліцах!*

***Парафіяне з Дзедзіна і Забалоцця***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*У гэтыя самыя добрыя, прыгожыя вясновыя дні хочацца ад усёй душы і чыстага сэрца павіншаваць нашага **паважанага ксяндза пробашча Тадэвуша Кавальскага** са светлым святам Уваскрасення Пана Езуса Хрыста, а таксама з Днём святарства! Жадаем Вам, дарагі наш ойча Тадэвуш, і Вашым родным моцнага здароўя, даўгалецця, мужнасці, вытрымкі, душэўнага спакою і заўсёды цудоўнага настрою! А яшчэ жадаем Вам Божага благаслаўлення і падтрымкі ў Божых справах, шчырых вернікаў на святарскім шляху, шчасця і радасці на доўгія гады!*

*Дзякуем Вам за малітвы, за прыклад вялікай любові да Пана Бога, да Панны Марыі, за клопат пра людзей, за Вашу падтрымку тых, хто апынуўся ў цяжкім стане, за Вашу штодзённую нялёгкую працу на карысць Святога Касцёла і ўсіх вернікаў.*

*А таксама з вялікай павагай і радасцю віншуем са святам **усіх святароў, братоў і сясцёр з парафіі Святой Тройцы ў Докшыцах** і жадаем усяго найлепшага! Вялікі дзякуй за дапамогу нашай парафіі!*

***З любоўю, малітвамі і павагай, вернікі парафіі Хрыста Валадара ў Бягомлі***

## Хвала Хрысту!

*З надыходам свята Вялікадня і з днём святарскага пасвячэння (8 красавіка) шчыра віншуем пробашча нашай парафіі **кс. Мікалая Ліпскага**!*

*Паважаны ксёндз Мікалай! Жадаем Вам плёну ў працы на Божай ніве і вытрымкі ў цяперашні складаны час пандэміі. Моцнага Вам здароўя. Няхай Маці Божая апякуецца Вамі і Вашымі роднымі!*

***З павагай, вернікі касцёлаў Святой Марыі Магдалены (г. Новалукомль) і Перамянення Пана (г. Чашнікі)***



## Віншуем біскупа Алега Буткевіча з днём нараджэння!

***Шаноўны біскуп Алег!*** *Магчыма, ніхто не чакаў, што народжаны 18 сакавіка 1972 году хлопчык стане калісьці каталіцкім святаром і нават біскупам. Але напэўна ўсе - бацькі і родныя - жадалі нованароджанаму дзіцяці, каб ён рос здаровым і шчаслівым, пазнаваў свет, быў шчырым і сумленным чалавекам і знайшоў сваё месца ў жыцці.*

*З таго веснавога дня прайшло шмат гадоў, у Вашым жыцці з'явілася адказнасць не толькі за сябе і сваіх блізкіх, але і за лёс Касцёла на Вашай радзіме — Віцебскай зямлі, а Ваша сям'я папоўнілася тысячамі братоў і сясцёр у Хрысце, якія шчыра любяць Вас, паважаюць і даўяраюць Вашаму мудраму кіраўніцтву. А пажаданні нашыя з таго часу амаль не змяніліся.*

*Дарагі наш біскуп! Здароўя і радасці Вам на доўгія гады! Працягвайце пазнаваць свет, здзіўляйцеся Божай прадбачлівасці і не спыняйцеся на дасягнутым! Жадаем, каб вакол Вас заўсёды былі надзейныя сябры, мудрыя дарадчыкі і добрыя людзі! Няхай справа, якой Вы прысвяцілі жыццё, усцешыць Айца Нябеснага і будзе карыснай свету і людзям!*

*А мы, вернікі добра знаёмай Вам катэдральнай парафіі, абяцаем сваю падтрымку і малітоўную падтрымку!*

***З найлепшымі пажаданнямі, парафія Езуса Міласэрнага (Віцебск)***

## Хвала Хрысту!

***Ваша Эксцэленцыя! Паважаны біскуп Алег!***

*Дазвольце павіншаваць Вас з Днём нараджэння (18 сакавіка). Прыміце нашы самыя шчырыя пажаданні – вялікай ласкі Пана і апекі Маці Марыі для Вас, добрага здароўя, новых творчых здабыткаў у Вашай няпростай дзейнасці на Божай ніве!*

*Дзякуем Вам за сумленнасць і шчырасць, за адданасць Пану Богу і людзям, за цудоўныя казанні! Няхай Анёл-ахоўнік заўсёды будзе побач з Вамі, а мы сваімі малітвамі заўжды Вас падтрымліваем.*

***З павагай, любоўю і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Езуса Міласэрнага ў Паставах***

## Хвала Хрысту!

*З сардэчнай цеплынёй і малітвай віншуем **паважанага біскупа Алега Буткевіча** з Днём нараджэння!*

*Жадаем шчодрых Божых ласкаў, моцнага здароўя, супакою, нястомнай апекі Маці Божай! Дзякуем за абвяшчэнне Божага слова, якое заўсёды кранае душы людзей, робіць іх чыстымі, добрымі, шчырымі і міласэрнымі!*

*Няхай сонечныя промні Божай міласэрнасці асвячаюць кожны дзень Вашага святарскага жыцця, надаюць сілы і моцы для ажыццяўлення новых планаў, задумак на карысць Богу, людзям і Каталіцкаму Касцёлу!*

***Удзельнікі руху "Маці ў малітве" Санктуарыя Маці Божай Валадаркі Азёраў у Браславе***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Паважаны **ксёндз пробашч Юрый Жаўнаровіч**, прыміце нашы самыя найлепшыя пажаданні з нагоды імянінаў (23 красавіка)!*

*Няхай Анёл-ахоўнік заўсёды будзе побач з Вамі і закрывае Вас сваімі крыламі ад усялякіх нягод і засмучэнняў, Вашае сэрца застанецца такім жа спагадным, а Вашыя настаўленні і малітвы знаходзяць шлях да сэрцаў парафіян! Няхай Пан Бог благаслаўляе кожны Ваш дзень, адорыць моцным здароўем, нязломнай верай, а Маці Божая апякуецца Вамі!*

*Дзякуем за Вашу шчырую ўсмешку, добрыя словы, за падтрымку ў цяжкія хвіліны, за малітву ў нашых інтэнцыях і данясенне да нашых сэрцаў Божага слова.*

*Поспехаў Вам на шляху Божага паклікання!*

***З вялікай павагай, удзячнасцю і малітвай, вернікі касцёла Узвышэння Святога Крыжа ў аг. Ахрэмаўцы Браслаўскага р-на***

## Хвала Хрысту!



*31 сакавіка адзначае Дзень нараджэння **ксёндз Уладзіслаў Шарковіч.** З гэтай нагоды шчыра віншуем Вас, паважаны ксёндз Уладзіслаў! Жадаем шчодрых Божых ласкаў, аптымізму, нястомнасці ў святарскім служэнні, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і Анёла-ахоўніка!*

***Парафіяне касцёла Святой Тройцы ў Глыбокім***

## Віншуем!



*Паважаны **ксёндз Эдуард Сінкевіч**! Шчыра віншуем Вас з днём нараджэння! (4 красавіка) і са святам Вялікадня!*

*Жадаем шчырай Вялікоднай радасці, Божага благаслаўлення, дароў Духа Святога, апекі Маці Божай, мудрасці, сілы і цярплівасці ў працы на Божай ніве. Няхай Вас заўсёды асвячаюць промні Божай Міласэрнасці.*

*Здароўя Вам, міру, дабра і цяпла, радасных і сонечных дзён! Няхай шчасце і радасць будуць пастаяннымі спадарожнікамі ў Вашым жыцці!*

***З павагай і ўдзячнасцю парафіяне касцёла Святога Міхала Арханёла ў Варапаеве***

# Запрашэнне на біблійны курс “Эмаўс”




**Рэкалекцыйны дом святога Юзафа ў Оршы запрашае на заняткі па вывучэнні Бібліі. 9-11 красавіка адбудзецца курс “Эмаўс”.**

Біблійны курс “Эмаўс” – гэта не столькі рэкалекцыі, а, хутчэй, заняткі па вывучэнні Бібліі. Апроч лекцый на курсе ёсць таксама практыка малітвы Божым Словам. Курс прызначаны найперш для працы па вывучэнню Бібліі, таму неабходна мець з сабой усё тое, што бяруць студэнты на заняткі (Біблія, сшытак). Гэтым разам будзем разважаць над кнігай Суддзяў.

Курс праводзяць доктар біблейскага багаслоўя Уладзіслаў Валаховіч і а. Ілля Саўчанка МІС.

**Пачатак: пятніца, 18.00.**

**Заканчэнне: нядзеля, 17.30.**

Запіс абавязковы і трывае да 7 красавіка (серада) па тэл.: **+375(33) 661-21-47**.

Адрас: г. Орша, вул. Савецкая, 6.

Я у Бога просил, чтоб гордыню забрал.
- Отказаться от гордости должен ты сам!
Я просил, чтоб от боли меня уберёг,
Но в ответ объяснил терпеливо мне Бог, -

Лишь страдая, я ценности жизни пойму
И тем самым быстрее приближусь к Нему.
Стал я счастья просить, Бог лишь благословил,
Но счастливым мне стать самому предложил.

Я духовного роста решил попросить,
Но ответил мне Бог: рост нельзя подарить,
Дух, как дерево, выше расти должен сам,
Он лишь "ветки подрежет" на благо плодам.

Попросил я дать сил, чтобы крепким мне быть,
Бог послал испытания, чтоб закалить.
Я хотел стать мудрей, Бог проблемы мне дал,
Чтобы я над решением их размышлял.

Я любви попросил, Бог отправил мне тех,
Кто нуждался в поддержке моей больше всех.
А на просьбу дать благ, Бог возможность послал,
Чтоб, используя шанс, я успех приближал.

Ничего не дано из того, что просил,
Но в итоге, что нужно - я всё получил!

***Нина Антюшкина***



Спасение приходит только от Креста. Нет спасения в идеях, в доброй воле, в желании быть хорошим... Но что для нас значит Крест? Это христианский символ и знак. Мы совершаем крестное знамение, но не всегда делаем это хорошо, часто невнимательно, из-за недостатка веры в распятие. Есть такие, кто носит крест, показывая принадлежность к христианству. Это прекрасно, но нельзя сводить его к одной лишь эмблеме, похожей по духу на значок любимой команды: это память о Том, Кто сделался для нас жертвой за грех

~ Папа Франциск



# «Святой Иосиф как пример мужественности и открытости новой жизни»

**20 февраля в приходе Святого Духа в Витебске состоялись духовные упражнения для мужчин, центральным моментом которых была фигура св. Иосифа. Тихий и скромный на страницах Библии, «человек, который остается незамеченным, человек ежедневного присутствия, сдержанного и сокрытого», «беспрецедентный герой в истории спасения», как писал о нем Папа Франциск в Апостольском послании Patris corde от 08.12.2020г.**




Поразмышлять о духовности св. Иосифа, научиться по его примеру отношениям с Богом, с женой, с детьми, собрались 25 мужчин и юношей из Минска, Могилева, Глубокого и Витебска. Реколлекционный день оказался очень насыщенным. Было время на совместную молитву, чтение Библии, исповедь, лекции, а также на настоящее мужское общение и традиционный лазертаг. Несмотря на занятость, мужскую встречу посетил ординарий Витебской епархии епископ Олег Буткевич и всем участникам уделил благословление.

Эта встреча стала продолжением доброй традиции мужских реколлекций, которые уже с 2016 года проводят душпастырство семей Витебской епархии и БФ «Открытые сердца». В этом году, когда все границы закрыты, традиционные зимние выезды в монастыри и святыни стали невозможны, поэтому был выбран иной формат. Число приехавших мужчин и итоговая рефлексия показала востребованность таких встреч.

***Иван Пузанов***

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**

**4 красавіка 2021г.**
**Велікодная Нядзеля**
***Ян 20, 1-9***

Ва ўрыўку Евангелля мы чытаем, як Марыя Магдалена пайшла да магілы, калі было яшчэ цёмна. Магчыма, гэты перыяд на досвітку абазначае той стан, у якім знаходзілася тады жанчына: стан суму, жальбы і плачу. Аднак вялікая любоў рухала яе наперад, каб знянацку ашаламляльна засведчыць: грабніца, дзе пахавалі Госпада жыцця, пустая. Вестку пра пустую магілу вучні атрымліваюць якраз ад жанчыны. Ці хтосьці яшчэ можа сумнявацца ў ролі жанчын у Касцёле? Два вучні пабеглі хутчэй да месца пахавання Езуса. Ян, будучы малодшым, вядома, прыбег першым. Аднак не ўвайшоў туды, даючы магчымасць гэта зрабіць Пятру. Магчыма, у гэтым жэсце якраз і хаваецца тая павага маладога вучня да вучня галоўнага, якому Госпадам дадзена ўлада быць галавою Касцёла.

Вучні заўважылі, што ў пустой магіле знаходзяцца пахавальныя шаты Хрыста. Што б гэта магло значыць? Адразу прыбягае думка пра плётку, пушчаную фарысеямі: быццам мёртвага Хрыста ўкралі вучні ці хтосьці там яшчэ. Але ці ж рабаўнікі здымалі б адзенне з трупа, перад тым як яго ўкрасці? Навошта гэта рабіць? Пахавальныя палотны ў магіле якраз-такі сведчаць пра тое, што ніхто не выкрадаў Езуса з грабніцы.

Мы таксама добра памятаем апісанне ўваскрашэння Лазара з магілы. І яно кардынальным чынам адрозніваецца ад уваскрасення Божага Сына. Лазар на загад Хрыста выходзіць з магілы абвязаны палотнамі. І Езус наказвае прысутным: "Развяжыце яго". Лазар ажыўлены Хрыстом дзеля таго, каб пазней памерці яшчэ раз. Хрыстус жа паўстаў з магілы, і смерць ужо не мае над Ім улады. Езус, будучы Валадаром жыцця, канчаткова перамагае смерць. Мы, з'яўляючыся Яго сябрамі, таксама маем Яго запрашэнне жыць вечна. Сваёй перамогай Ён дзеліцца з намі.

**11 красавіка 2021г.**
**ІІ Велікодная Нядзеля**
***Ян 20, 19-31***

У Евангеллі мы бачым апісанне з'яўлення Езуса сваім вучням. Страх панаваў паміж імі, дзверы ў дом былі замкнёныя. Аднак, калі з'явіўся ўваскрослы Езус, усё кардынальна змянілася: з'явіліся супакой і радасць. Настаўнік жывы! Юдэі раней прасілі Яго: Які знак нам дасі? Што Ты нам пакажаш? Езус паказвае свае раны ад укрыжавання. Гэта тыя знакі, якія сведчаць пра Яго гарачую любоў да чалавека і пра Яго неўміручасць. Аднак важнае таксама і тое, што радасць уваскрасення і супакой наступаюць пасля ўкрыжавання. Яны праходзяць праз крыж. Без крыжа няма ўваскрасеннння.

У размове з вучнямі Езус пасылае іх на ўвесь свет. Місійны характар Касцёла строга звязаны з наказам Хрыста. Касцёл не можа быць іншы. Прапаведаванне Евангелля ўсім – гэта асноўнае заданне апосталаў і іх наступнікаў. Важнымі словамі Хрыста з'яўляецца Яго выказванне пра адпушчэнне грахоў. Гэты тэкст Паўсюдны Сабор у Трыдэнце (1545-1563 гг.) прыводзіць як біблійнае абгрунтаванне сакраманту споведзі. Сапраўды, у наш час многія могуць задаць пытаннем: чаму неабходная споведзь? Чаму спавядацца трэба менавіта святарам? Чаму недастаткова проста прабачыць самому сабе ў думках? Адказ на гэтыя пытанні крыецца якраз у сённяшнім Евангеллі. Сам Езус устанавіў сакрамант споведзі і прагне нашага асабістага навяртання ў пакоры. Таму што толькі пакорны чалавек можа прызнацца ў сваіх грахах і памылках.

Напрыканцы Евангелля мы даведваемся, што апостал Тамаш, дакранаючыся да Яго ранаў, таксама пачынае верыць у Хрыста. Гэта той самы Езус, Які быў укрыжаваны! Пра гэта сведчаць раны на Яго целе! Аўтар натхнёна далей падводзіць агульную думку: Гэтае ж напісана, каб вы паверылі, што Езус ёсць Месія, Сын Божы, і каб, веруючы, вы мелі жыццё ў імя Ягонае. Евангелле неабходна чытаць і разважаць, таму што праз гэта можна сустрэць уваскрослага Хрыста, веруючы ў Якога атрымаем вечнае жыццё.

**18 красавіка 2021г.**
**ІІІ Велікодная Нядзеля**
***Лк 24, 35-48***

У Евангеллі мы чытаем пра тое, як Езус пасля свайго ўваскрасення аб'яўляецца вучням. Вучні ўсё яшчэ не вераць апавяданню іх таварышаў, што вярнуліся з Эмаус. Вестка пра ўваскрослага Хрыста ўсё яшчэ выглядае занадта неверагоднай. Раптам сярод іх з'яўляецца жывы Езус. Вучні думаюць, што перад імі прывід. Каб пераканаць іх у адваротным, Езус выкарыстоўвае тры спосабы.

Па-першае, Настаўнік запрашае паглядзець на яго рукі і ногі. А што на іх? На іх засталіся сляды ад укрыжавання. Навошта гэтыя раны жывому Езусу? Чаму яны засталіся на целе ўваскрослага і жывога Хрыста? Раны Езуса сведчаць пра тое, што Яго ўваскрослае цела – гэта тое самае цела, якое вісела на крыжы. Гэта знак для нас. Таксама прабітыя рукі і ногі Хрыста прыпамінаюць нам, што ўваскрашэнне немагчымае без крыжа. Каб увайсці ў нябесную вечную рэчаіснасць, трэба перажыць крыж.

Па-другое, Езус запрашае сваіх сяброў і вучняў дакрануцца да Яго. Дакраніцеся да Мяне і пераканайцеся: бо дух не мае цела і касцей; як бачыце, Я іх маю.

Па-трэцяе, паколькі вучням яшчэ мала гэтых доказаў, Езус просіць падаць яму штo-небудзь з ежы. Вучні падаюць Яму кавалак печанай рыбы. Цяпер сумневаў няма. Гэта сапраўды Пан. Езус распавядае прысутным, што ў Ім спаўняецца ўсё Пісанне. Ён асвячае іх розумам, каб змаглі зразумець Божае слова. Пасля гэтага ідзе наказ пра абвяшчэнне Евангелля і пакаянне ўсім народам. Менавіта таму місійны характар Касцёла застаецца нязменным на працягу стагоддзяў. Ён датычыць як "прафесійных" прапаведнікаў – святароў, біскупаў і дыяканаў, так і шараговых вернікаў, якія пакліканы абвяшчаць Евангелле там, дзе жывуць.

**25 красавіка 2021г.**
**IV Велікодная Нядзеля**
***Ян 10, 11-18***

Добры пастыр – гэта той, хто сапраўды клапоціцца пра сваіх авечак. Больш за тое, гэта чалавек, каторы гатовы аддаць сваё жыццё за іх. Езус з'яўляецца гэтым Добрым Пастырам, таму што ведае кожнага з нас па імені. Адпаведна мы можам запытаць у сябе, ці ведаем мы голас Хрыста?

Сённяшні свет вельмі крыклівы і спакуслівы. Ці хачу я пачуць Божы голас, які вельмі часта гучыць акурат у малітоўнай цішыні сэрца? Авечцы, якая пазбавілася апекі пастыра, могуць пагражаць розныя небяспекі. Яна можа заблукаць у гушчары, упасці ў расколіну, стаць ахвярай драпежнага звера. У жыцці часам так і бывае. Паддаючыся спакуслівым



прапановам, забыўшыся пра голас Пастыра, чалавек трапляе ў бяду. Таму варта таксама сябе спытаць адносна паслухмянасці ў веры.

Езус заснаваў тут на зямлі свой Касцёл і пастырскую ўладу ў ім даверыў духавенству: біскупам, святарам і дыяканам. Нам варта з пашанай ставіцца да навучання Святога Айца, Які кіруе паўсюдным Касцёлам, а таксама да навучання біскупаў, пастырскай апецы каторых давераныя дыяцэзіі. Урывак з сённяшняга Евангелля несумненна адносіцца таксама і да прадстаўнікоў духавенства. Яны павінны пазбыцца любога намёку на найміцтва і выконваць сваё служэнне ў духу ахвярнасці і любові. Пра гэта вельмі часта ўспамінае Папа Францішак у сваіх зваротах да святароў. Аднак жа нам трэба таксама памятаць, што добрыя і святыя пакліканні нараджаюцца і развіваюцца ў добрых і святых сем'ях, у добрых і святых парафіях, у добрых і святых семінарыях.

*Разважанні падрыхтаваў*
***кс. Віктар Місевіч***
*Віцебск*



# Духоўнае адраджэнне

**Пад назвай «Беларусь сінявокая» адкрылася выстава малюнкаў вучняў школы мастацтваў імя Ромера ў Доме культуры 5-га гарадка г. Паставы.**

Разнастайная тэматыка малюнкаў: «Зімовыя птушкі», «Снегіры», «Буслы», «Мая Радзіма» і іншыя карціны, над якімі працавалі юныя таленты Пятровіч Дз., Астанкіна К., Буйчонак Д., а таксама іншыя мастакі. Спадзяюся, што ў будучым гэтыя імёны будуць вядомыя ў свеце як імёны славутых землякоў Шагала, Ромера.

На выставе прадстаўлены карціны і на духоўныя тэмы. Гэта праца Віктара Зелянкевіча «Свята Нараджэння Хрыстова». На карціне адлюстраваны парк, азораны рознымі колерамі, удалечыні бачны храм, а за ўсім назіраюць мама і дзіця. Нараджэнне Хрыста прынесла святло ў душы людзей.

Твор «Камайскі касцёл зімой» напісаў Станіслаў Гіль. Гэты касцёл нібы крэпасць, крэпасць душы, веры ў святло жыцця.

Карціну «Дарога да храма» стварыў Алег Мікалаеў. Сапраўды, дарога да веры ляжыць вузенькай сцежкай сярод дрымучага лесу.

Арганізатарамі выставы былі настаўнікі школы мастацтваў Дрэлінская, Скіндэр, Атрахімовіч і іншыя. Выставу наведалі каля тысячы гледачоў.

***Ірына Філановіч,***
*г. Паставы*



Хрыстос уваскрос! Аллелюя!
Святкуй ВЯЛІКДЗЕНЬ разам з

# ПАЗНАВАЙКАй

Вялікдзень з'яўляецца самай вялікай хрысціянскай урачыстасцю. Яго называюць "святам святаў". У гэты дзень Хрыстус сваёю крывёю адкупіў увесь свет.

## 1. Велікодны рэбус

Ці ведаеш ты, што сімвалізуе велікоднае яйка? Разгадай рэбус, каб даведацца, што яйка – гэта сімвал ...




## 2. Злучы па кропках

і ўбачыш, хто быў першым сведкам Уваскрасення Хрыста. Напішы ўнізе яе імя.



## 3. Велікодная крыжаванка

Калі разгадаеш крыжаванку, у сярэдзіне зможаш прачытаць, што з габрэйскай мовы азначае Пасха.

1. Пафарбаваныя яйкі называюцца...
2. Дзень тыдня, у які Езус Уваскрос.
3. Сімвал Хрыста. Літургічны сімвал Вялікадня, а таксама старазапаветная фігура, якая прыгадвае фрагмент памазання кроўю дзвярэй ізраільцян.
4. Месца, дзе спаткаўся Езус са сваімі вучнямі пасля Уваскрасення.
5. Свечка, якая сімвалізуе Уваскрослага Хрыста.
6. Праўда, якую хрысціяне абвяшчаюць на Вялікдзень.
7. Назва галоўнага хрысціянскага свята.



## 4. Велікодныя пісанкі

Размалюй разам з Пазнавайкай яйкі на Велікодны стол



**Хрыстос Уваскрос! Аллелюя!**

**Пазнавайка віншуе ўсіх сваіх сяброў са святам Уваскрасення Хрыста!**

Жадаем вам шчаслівых і радасных святаў! Няхай яны стануць для вас сапраўднаю сустрэчаю з Уваскрослым Хрыстом! Няхай Змёртвыхпаўсталы Езус, які перамог грэх і смерць, суправаджае вас і благаслаўляе кожны дзень жыцця.

*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Колзун***

# Ці добра ведаем Евангелле?!



## Адкажы на пытанні ці дапоўні фразы!

**Па гарызанталі:**

1. «Вам дадзена пазнаць таямніцу Валадарства Божага, а да астатніх гавару ў ……., каб, гледзячы, не бачылі і, слухаючы, не разумелі».

2. Хто выдаў першасвятарам Езуса?

7. З якога места быў Юзаф, які папрасіў цела Езуса. Зняўшы, захінуў яго ў палатно і паклаў у высечаный магіле?

8. «Вось Дзева зачне і народзіць Сына, і дадуць Яму імя ………»;

10. «Я — … свету. Хто ідзе за Мною, той не будзе хадзіць у цемры, але будзе мець святло жыцця»;

12. Двое з іх у той жа дзень ішлі ў вёску, якая знаходзілася ў шасцідзесяці стадыях ад Ерузалема. Размаўлялі і разважалі між сабою, сам Езус наблізіўся ды ішоў разам з імі. Аднак вочы іх былі стрыманыя, таму не пазналі Яго. Якая назва вёскі?

14. Несучы свой крыж, Ён выйшаў на месца, якое называлася Месцам Чэрапа, па-габрэйску —………;

17. «Я — … жыцця; хто прыходзіць да Мяне, не будзе галодны, і хто верыць у Мяне, ніколі не будзе прагнуць»;

18. «Я пытаюся ў вас, ці дазволена ў ……. рабіць дабро або рабіць зло; ратаваць жыццё ці загубіць?»

20. І сказаў Ёй анёл: «Не бойся, ……., бо знайшла Ты ласку ў Пана»

22. Анёл жа сказаў яму: «Не бойся,…….. , бо выслухана просьба твая»

24. Чым выдаў Юда, Езуса, які знак?

27. «Сапраўды кажу табе: сёння будзеш са Мною ў раі». Чые гэта словы?

28. «Раббі, хто зграшыў, ён ці бацькі ягоныя, што ён нарадзіўся ……..?» Езус адказаў: «Ні ён не зграшыў, ні бацькі ягоныя, але сталася гэта дзеля таго, каб выявіліся праз яго справы Божыя»;

32. Што абмываў Езус вучням падчас вячэры?

33. Чые словы мы кожны раз ужываем падчас святой Імшы «Пане, не турбуйся, бо я не варты, каб Ты ўвайшоў пад дах мой. Таму я не палічыў сябе вартым прыйсці да Цябе. Але скажы слова, і будзе аздароўлены слуга мой»;

35. Пра каго гаворка: "Вось пасылаю анёла Майго перад Табою, які падрыхтуе дарогу Тваю перад Табою"?;

36. Які загад выйшаў ад цэзара Аўгуста?

**Па вертыкалі:**

3. У якім месцы Езус зрабіў першы цуд і паказаў славу Сваю, і паверылі ў Яго вучні Ягоныя?

4. «Бо кожны, хто ўзвышае сябе, будзе паніжаны, а хто паніжае сябе,...»;

5. А калі мінулі дні іх ачышчэння паводле Закону …..;

6. Хто дапамагаў несці крыж Езусу?

9. Чые словы: «Я не знаходжу ніякай віны ў гэтым чалавеку»?

11. Сын Чалавечы, прыйшоўшы, ці знойдзе …… на зямлі?

13. Калі Езус, прыняўшы хрост, маліўся, раскрылася неба, і Дух Святы ў цялесным выглядзе, як …….., сышоў на Яго;

15. Калі…….. пачула прывітанне Марыі, узварухнулася дзіцятка ва ўлонні яе;

16. На пачатку было ………;

19. «………,бо наблізілася Валадарства Нябеснае»;

21. Але ён сказаў ім: «Калі не ўбачу на руках Яго ранаў ад цвікоў і не ўкладу пальца свайго ў раны ад цвікоў, і не ўкладу рукі сваёй у бок Яго, не паверу». Імя вучня?

23. У якім месцы нарадзіўся Езус?

25. «Пакаленне гэтае —ліхое пакаленне, яно шукае знаку, але не будзе дадзена яму знаку, апроч знаку………»;

26. Потым Езус пайшоў з імі на месца, званае ……., і сказаў вучням: «Сядзьце тут, а Я адыду і памалюся там»;

28. Каму было прадказана Духам Святым, што ён не зазнае смерці, пакуль не ўбачыць Месію Пана?

29. У якой рацэ хрысціў Ян?

30. Каму з'явіўся Анёл Пана і абвясціў аб нараджэнні Збаўцы?

31. Жанчына сказала Яму: «Пане, дай мне гэтай вады, каб я не мела больш прагі і не прыходзіла сюды чэрпаць». Якой вады прасіла жанчына?

34. Імя ўдавы васьмідзесяці чатырох гадоў, якая прысутнічала ў час Ахвяравання Езуса ў святыні?

36. Хто адрокся ад Езуса тры разы?

37. Як імя анёла, якога Бог паслаў у горад галілейскі, званы Назарэт?

38. «А вы кім лічыце Мяне?» Пётр, адказваючы, сказаў: «... Божым».

*Падрыхтавала*
***Вольга Мікульская,***
*г. Маладзечна*

**Адказы:**

**Па гарызанталі:**

1.Прыпавесцях 2. Юда 7. Арыматэі 8. Эммануэль 10. Святло 12. Эмаус 14. Галгота 17. Хлеб 18. Шабат 20. Марыя 22. Захарыя 24. Пацалунак 27. Злачынцу 28. Сляпым 32. Ногі 33. Сотніка 35. Ян 36. Перапіс

**Па вертыкалі:**

3. Кана 4. Узвысіцца 5. Майсея 6. Сымон 9. Пілата 11. Веру 13. Голуб 15. Альжбета 16. Слова 19. Кайцеся 21. Тамаш 23. Бэтлеем 25. Ёны 26. Гетсэманія 28. Сімяон 29. Ярдан 30. Пастухам 31. Жывой 34. Ганна



## Ахвяруй на "Каталіцкі Веснік"

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*375295105172*2# — калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі
*363*375295105172*5# — калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў
(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання)

2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.

3. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*[код пацвярджэння]#

4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

**Увага!** Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

**Увага!** Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС. Калі Вы з'яўляецеся абанентам А1 ці іншага мабільнага аператара ў Беларусі і жадаеце ахвяраваць на "Каталіцкі Веснік", Вы можаце проста папоўніць баланс тэлефона: +375295105172.

**Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by!** За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***

**Каталіцкая капліца ў анкадыспансеры ў Віцебску**

У Віцебскім абласным клінічным анкалагічным дыспансеры па адрасе вул. П. Броўкі, 33 дзейнічае каталіцкая капліца.
Святая Імша адпраўляецца кожны аўторак а 16.00.
Ёсць магчымасць запрасіць святара ў палату.
**Тэл. +375(29) 510-20-77 кс. Андрэй Аніскевіч**
**Тэл. +375(29) 894-55-11 сп. Яўгенія**

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 7**
1 – А; 2 – Б; 3 – В; 4 – В; 5 – Б; 6 – Б; 7 – Б; 8 – Б; 9 – А; 10 – Б


Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:**
мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:**
рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:**
кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:**
Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:**
Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:**
Марына Сінкевіч
**Карэктары:**
Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 1453

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3400 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 25.03.2021 г. у 8.30

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:**
211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621

Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь